Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару 15 гр.

№ 5 (25) Вільня, серада 25 верасьня 1929 г. Год III

# НАРОД

СЯЛЯНСКІ ЧАСАПІС

Выходзе 2 разы у месяц

РЭДАКЦЫЯ Й АДМІНІСТРАЦЫЯ:
ВІЛЬНЯ, НОВЫ СЬВЕТ, ТУРГЕЛЬСКАЯ 22 кв. 3

ПАДПІСКА: на год . . 3 зал.
на паўгоду . 1 „ 50 гр.
на 3 месяцы . . 75 „
Заграніцу ўдвая даражэй.

ЦАНА АБЕСТАК ПАВОДЛЕ УМОВЫ з АДМІНІСТРАЦЫЯЙ.



## ДЗЕ ВЫХАД?

Беларускі адраджэнскі рух у Зах. Беларусі перажывае цяперака вялікі крытычны мамэнт, істотаю каторага ёсьць агульнае аслабленьне тэмпу беларускай народна-грамадзкай працы ў ва ўсіх яе галінах. Замест таго, каб у меру росту нацыянальнае сьвядомасьці і грамадзкай сьпеласьці што раз шырэйшых масаў, у меру пашырэньня й паглыбленьня беларускай адраджэнскай ідэолёгіі, пашыралася і паглыблялася беларуская народная дзейнасьць — мы бачым памальны заняпад у народным руху. Каб ляпей абачыць гэтае зьявішча, даволі ўзяць беларускую дзейнасьць некулькі год таму назад, то прыраўняўшы яе із сучаснасьцяй, пабачым вялікую розьніцу, акажыцца, што мы на многіх пазыцыях ідзём назад, а не наперад. Смутнае зьявішча, але адначасна зусім праўдзівае!

У чым-жа ляжыць прычына гэтага? Калі акінуць крытычным вокам усю беларускую грамадзкую дзейнасьць за апошні час і прааналізаваць яе асобныя мамэнты, дык можна згледзіць, што прычына гэтага ненармальнага зьявішча ў цяперашнім беларускім руху мае дваякае выясьненьне:— прычына гэтага паходзе ад нас і незалежна нас!

Папершае, нэгатыўныя адносіны да Беларусаў пануючае нацыі, каторая плянова й консэквэнтна імкнецца за ўсякую цану аслабіць малады беларускі рух, скрывіць яго з нармальнае лініі, напасьледак стварыць зь яго бальшавіцка-польскую інтрыгу, каб гэтым лягчэй было зь ім ходацца. Гэтыя імкненьні паходзячыя незалежна ад нас, шмат у чым цяпер бываюць удачныя, бо трэба ўсьведаміць сабе, што мы яшчэ не на толькі дужыя, каб гэтаму цалком проціўставіцца.

З другога боку, віна ўсяго гэтага крыецца і ў нас самых, у працы й дзейнасьці тых, што стаяць цяпер на чале беларускага руху. Зь вялікім смуткам прыходзіцца канстатаваць той факт, што ў нас мала яшчэ выробленай, адданай справе інтэлігенцыі, каторая патрапіла-б у народнай дзейнасьці выйсьці з вузкіх дагэтулешніх кругазораў, а ахапіць шырокі прастор дзейнасьці. Нястача шырокага пазнаньня ўсяе істоты народнае працы, нястача грунтоўнага зразуменьня ўсіх найменшых яе патрэбаў і вымаганьнеў, нястача, напасьледак, шчырага й глыбокага адчуцьця голасу народнага сумленьня, згодна з каторым вялася-б народна-грамадзкая праца.

Як вынік вышменаванага вялікім мінусам у дзейнасьці нашага грамадзянства ёсьць між іншым тое, што няма крытычнага падыходу да розных вонкавых, чужых нам, ідэяў, каторыя вымагаюць перад тым, як пераняць іх, грунтоўна-крытычнага асьвятленьня, каб уносіць толькі тое, што цалком адпавядае народным вымаганьням. У гэтым ёсьць шкодныя ўплывы ідэяў з усходу, што будучы зусім неадпаведнымі нашым заданьнем, замест таго, каб прыносіць пэўную рэальную карысьць, яны бязьлітасна рухаюць усё беларускае, дэмаралізуюць і псуюць усё дагэтуль здаровае.

У сувязі з агульнай дызор'ентацыяй і пасыўнасьцяй беларускага перадавога грамадзянства гэты працэс адбываецца такжа і сярод шырокіх сялянскіх масаў. Няма цяпер на сяле нейкіх агульных паказьнікаў, паводле якіх вялася-б праца. Вытвараецца ў шырокіх колах вясковага насяленьня вялікае расчараваньне й нястача веры ў лепшую будучыню.

Падобны стан ужо даўно можна пабачыць у нашай дзейнасьці, але найбольш яскрава выступае гэта ў апошні мамэнт, калі ўвесь ненармальны стан у беларускім руху асягнуў найвялікшыя разьмеры. Цяперака ўжо блізу што ня знойдзеш сьвядомага Беларуса, каторы-бы не сказаў, што падобнае палажэньне ненармальнае, шкоднае, а на'т забіўчае для агульнанароднай справы. Траха кожны цьвяроза думаючы Беларус, якога глыбока абходзіць беларуская справа, высказуецца за тым, што трэба шукаць якнайхутчэйшага выхаду з таго „зачараванага кола“, у каторым цяпер ёсьцека.

— А дзе-ж выхад?

А толькі й толькі ў вытрывалай і сумленнай працы над усебаковым адраджэньнем народу, у працы абапёртай на шырокіх разумовых асновах, каторая-бы прыносіла непарушныя пазытыўныя здабыткі. Трэба бязупынку імкнуцца паступова абыймаць усе галіны грамадзкага жыцьця краю, будаваць народны быт не на дэмагогічных пустых фразах, а тварыць моцныя позытыўныя вартасьці, каторыя-бы маглі проціўставіцца ўсякім вытнем (ударам). Ня трэба ніколі паддавацца часовым труднасьцем і няўдачам, бо ў кожным пачынаньні побач із вялікімі ўдачамі бываюць і няўдачы. Трэба вытвараць у сабе моцную веру ў памысны вынік нашае працы, не падаць ніколі духам! Трэба, напасьледак, зразумець глыбока істоту ўсяе народна-грамадзкае працы і ўсьведаміць сабе моцна, што не павінна яна залежыць ад асабіста-партыйных інтрыгаў, як бывае гэта часта цяпер, а што ўсякая грамадзкая праца, калі ёсьць яна таковай у сваёй істоце, павінна быць звышпартыйнай; павінна ахапіць неабмежаваныя кругазоры, павінна абыймаць усе найдрабнейшыя вымаганьні, часта падсьвядомыя, нашага быту. Суладнасьць і ўзаемнае зразуменьне павінна быць мэтодай у нашай дзейнасьці, а не партыйна асабістая лаянка, што так шмат зьядае энэргіі беларускага грамадзянства. Трэба вытвараць у сабе глыбокае пачуцьцё абавязку й самаахвярнасьці, бо толькі тагды можам мець вялікую ўдачу ў працы, калі ня будзем яе мераць паводлуг собскіх жыцьцёва-практычных інтарэсаў.

Бо трэба раз усьведаміць сабе і моцна задумацца, што пакуль мы ў сваёй дзейнасьці ня выйдзім з вузкіх партыйных кругазораў; пакуль ня будзем мець шырокага зразуменьня ўсяе істоты грамадзкае працы; пакуль на вытварым у сабе глыбокага пачуцьця абавязку й ахвярнасьці ў працы, патуль не чакаць нам дадатніх вынікаў з нашае дзейнасьці.

*С. Каліна*

## Перасьледаваньне Беларусоў у Рад. Беларусі

Перасьледаваньне Маскалямі Беларусаў у Радавай Беларусі прыняло вялізарныя разьмеры. Ужо цяпер нерасьледуюцца ня толькі беларускія сяляне і сьвядомая інтэлігенцыя беларуская, але й беларусы-камуністыя. Маскоўскі паход проці беларускага народу паведзены ўсюды. Цэлы сьцяг найстаршых камуністычных дзеячоў-Беларусаў, як Зьмітра Жылуновіч, Віткоўскі, Аляксандровіч і інш. Маскалі вінаваццяць у правым, нацыянальным водхіне называючы іх шовіністымі і „малодшымі братамі Антона Луцкевіча“. Шмат арыштавана й пасаджана ў турмы ў краі або заслана на Салавецкія астравы, як пісьменнікаў Зарэцкага (праўдзівае прозьвішча Косенкаў), Алеся Дудара (Дайлідовіч) і інш.

Апрача таго Масква дала загад Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі ходацца проці беларускай культурнай працы і беларускага руху наагул.

Цяперака ясна, што інтэрнацыяналістыя Зах. Беларусі, як Дварчанін і іншыя, ходаючыся проці нацыянальных беларускіх дзеячоў і ў тэй лічбе нашае працы, выграбалі жар М а с к в е.

## Як начэльнік Младкоўскі ходаецца зь беларускімі школамі

У вадным чэскім рамане з чэскалегіёнарскага жыцьця расказуецца, паміж іншым, як чэскія легіонары ў Сібіры мелі адну чэскую школу. І вось гэтую адзіную чэскую школу, пры гэтым малую, пачатковую ненавідзелі ўсе Маскалі ад генэралаў да простых жаўнераў і ад манархістых да сацыялістых улучна. Ведама, яны не маглі лічыць чэскую школу небясьпечнай Расеі, але ненавісьць гэная вынікала інстынктоўна зь іх шовіністычнага (зьвярына-нацыянальнага) настрою.

Тое самае трэба сказаць аб адносінах Палякоў да беларускае асьветы. Палякі, ведама, ня хочуць даць Беларусам роднае школы, каб беларускаму народу не расчыніліся вочы, каб ён ня стаўся вольным і шчасьлівым, але быў польскім нявольнікам. Зьдзекуюцца над беларускай асьветаю ўсе Палякі, ня вылучаючы т. зв. дэмакратаў і сацыялістых. Вось паслухайце, што выробляе такі „дэмократ“ Младкоўскі, начэльнік пачатковых школаў у Віленскай куратарыі. Пагаманіць із ім, дык віна нейдзе там уверсе, у міністэрстве, а ён, Младкоўскі, дык, навет, быццам прыязна адносіцца да беларускіх школаў, а тымчасам большага за яго непрыяцеля нямашака. Наш супрацаўнік даведаўся гэткае зь Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

У в. *Замасьцяны*, Валожынскага павету й воласьці была ўвесь час прад вайной прыватная пачаткавая школа. Сёлета Замасьцянцы зьвярнуліся да Бел. Гасп. Зьвязу з просьбаю адчыніць у іх беларускую прыватную школу. Але не прайшло і тыдня пасьле паданьня ў куратарыю заявы, як у Замасьцянах п. Младкоўскі адчыніў *урадовую польскую* школу, прыехала вучыцелька, прывязьлі лаўкі і інш. Сяляне дзівяцца, скуль гэтая ласка. Што гэта зрабіў начэльнік Младкоўскі, а не валожынскі школьны інспэктар, відаць з таго, што аб гэнай заяве інспэктар яшчэ ня мог ведаць, яна яшчэ ня выйшла з куратарыі.

Другі прыкрад. Беларускі Гаспадарскі Зьвяз падаў у Віленскую школьную куратарыю заяву, просячы даць канцэсію на прыватную пачаткавую школу беларускую ў в. Вялікае Сяло Маладэчанскага пав. Заява была пададзена 7 ліпня. Прайшло было паўтара месяца, але адказу з куратарыі ня было жаднага. Тады прадстаўнікі Зьвязу пачынаюць у справе школы дадзяваць п. начэльніку. Тады ён пачынае быццам штось рабіць, але рабіць, каб не дапусьціць да адчыненьня беларускай школы ў Вялікім Сяле. Ён паслаў маладэчанскаму школьнаму інспэктару пеперу з запытаньням, ці беларуская школа ў Вялікім Сяле не пашкодзіць суседняй польскай школе. Ведама, адказ будзе адзін—пашкодзе, бо беларускія дзеці ходзяць у польскія школы пад страхам грашавой кары за не хадню і, значыцца, тыя дзеці, што пойдуць у школу беларускую, ня будуць хадзіць у школу польскую. Калі гэт'кае шкоджаньне польскай школе мець наўвеце і лічыць ею перашкодай, дык нідзе немагчыма адчыніць ані беларускай урадовай школы ані прыватнай. Гэта ведае пан Младкоўскі і дзеля таго гэта выбраў аргумэнтам дзеля нядачьня канцэсыі на беларускую школу.

Ужо прайшло звыш двух тыднеў

просьле пасланьня інспэктару паперы з куратарыі, але ад інспэктара адказу нямашака. Бяссумлеву гэта адцягаваецца ўмысьля і хіба-ж у паразуменьню із самым начэльнікам Младкоўскім.

Зацемім яшчэ, што пара дзесяткаў урадовых беларускіх і двуязычных школаў ё толькі на паперы.

Пане Младкоўскі, зьдзекаваліся над намі маскалі 125 год і мы вытрывалі, дык перажывём і цябе і як пойдзеш, ваша, адкуль прыйшоў, дык астануцца па табе адны благія ўспаміны.

# Праудзівыя і хвальшаваныя ідэі

Ул. Л. Яворскі, проф пазнанскага ў-ту, надрукаваў 12. VII. сёлета ў „Dzienniku Poznanskim" артыкул, у каторым даводзе канечную патрэбу ідэі дзеля быцьця народу й гаспадарства.

„Ідэя—кажа Ул. Л. Яворскі—ёсьць умовай быцьця народу, а ня толькі плюсам, будзячым новыя магутныя энэргіі. Ідучы да свае ідэі, трэба кіравацца рэалізмам, але тыя, што кіруюць народам, павінны мець заўсёды перад вачыма вялікую мэту, павінны здаваць сабе лічбу із заданьнеў, каторыя народ мае перад іншымі народамі споўніць, калі ня мае быць лішнім сярод людзтва".

Далей проф. Яворскі прыводзе гэткі адрывак з прамовы, сказанай Сэйплем, б. прэм'ер-міністрам Аўстрыі:

„Аўстрыя ўпала — казаў кс. Сэйпель—бо ня споўніла свайго ўзгадавальнага заданьня ў வадносінах да сваіх усходніх суседзеў. Ашалапучаная ідэяй усемагутнасьці гаспадарства і нацыяналізмам позна наважыла ўтварыць із сваіх рознародных часьцеў вышшага адзіноства, абапертага на аснове гварантуючай праўна іхняю самастойнасьць. Былі людзі, што клікалі да гэтагаператварэньня, але былі гэта галасы гукаючых у пустыні, а тых, што адгукаліся на гэтыя галасы, называлі зраднікамі! ...Мы павінны — скончыў кс. Сэйпель—стаяць з пашанаю перад ідэямі, бо ідэі творамі Бога. Мы не павінны дазволіць, каб нам іх *хвалшавалі*, але так сама ня можна нам самым *хвалшаваць* (подчырк наш — *Рэд.* „Народу") зь нецярплівасьці нашых сэрцаў."

Гэтак хараша й праўдзіве сказаў былы першы міністар Аўстрыі. Польскі профэсар гэткімі словамі выказвае сваю згоду з найвыдатнейшым палітыкам аўстрыяцкім:

„Усё можам падпісаць, што казаў кс. Сэйпель. Аўстрыя праз увесь век не змагла ўсьвядоміць сабе свае ідэі да тае меры, каб прызнаць яе ўжыцьцяўленьне за канечную ўмову свайго быцьця. Дзеля таго ўпала. Ідэя гэная была ў вадносінах да іншых народаў.

*Не здабылася на разьвязаньне гэтага пытаньня ўнутры свайго гаспадарства собскімі сіламі, дык накінулі ёй гэтае разьвязаньне сілком звонку, па катастрофе. Шалам было-бы і ё думаць, што можна цэлы які народ найхітрэйшымі навет спосабамі палітычнымі й адміністрацыйнымі зьмесьці із зямлі. Хто так думае, той судзіць, што патрапе гісторыю й культуру людзтва адкінуць на паўтара веку назад да часоў Напалеона, каторы на востраве сьв. Алены казаў аб сабе, што аднае заслугі свае перад гісторыяй ён пэўны, што ўсюды, дзе прыходзіў із сваімі арламі, будзіў нацыянальнае пачуцьцё.*

Просьле гэтых слоў, здавалася-б можна мець хоць тую ўцеху, што знайшоўся сярод Палякоў чалавек, каторы бача патрэбу Польшчы зьмяніць свае дагэтулешнія благія адносіны да Беларусаў. Тымчасам, п. Яворскі, спалохаўшыся відаць, каб хто з Палякоў запраўды не захапіўся ідэяй, дадае, што ня трэба і навет, ня можна „сьпяшацца" праводзіць ідэю ў жыцьцё. Як быццам гэта сказаў кс. Сэйпель. „Сказаў, што гэтых вялікіх справаў ня можна *спаўняць* (подчырк наш—Рэд.) „зь нецярплівасьцяй сэрцаў", сказаў значыцца, што трэба іх мець у сэрцу, гэта значыцца, што трэба мець самую ідэю (trzeba mieć właśnie ideę), але, што яе ня можна ўжыцьцяўляць „нецярпліве". Здаецца, што ня трэба ўмець чытаць паміж радкоў, каб зразумець, што Паляк Яворскі хоча сказаць, што зусім ня трэба *ўжыцьцяўляць* ідэі, даволі яе толькі *мець*. Май „ідэю", прыцягуй пры помачы яе да сябе нацыянальныя „меншыні", паляч іх і гэтым будзе службная роля ідэі споўнена.

„Ідэю" служэбнага характару мела Польшча ў вадносінах да сваіх усходніх суседзеў (галоўна ў вадносінах да Беларусаў) перад разьдзеламі. Зацемім, што Немец Сэйпель казаў не аб „неспаўняньню нецярплівым", але аб „нефалшаваньню ідэі зь нецярплівасьці сэрца". Паводле Сэйпеля „ідэя" п. Яворскага была-б хвалшаванай ці, праўдзівей, самым фалшам. „Ідэя" гэная навет палячыла, але-ж яна й давяла да падзелу Польшчы! Калі прыраўнаваць адносіны цяпер Польшчы да падобных адносінаў калісь Аўстрыі, дык выйдзе, што Польшча ў сто разоў гарэй адносіцца да Беларусаў, як Аўстрыя калісь да Чэхаў, Палякоў і Украінцаў.

## ІЗ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

### СУД НАД б. ПАСЛОМ САБАЛЕЎСКІМ

У Віленксім акружным судзе ад 6. да 9 верасьня быў суд над б. беларускім паслом Сабалеўскім, належачым да пасольскага клюбу „Грамады". Сабалеўскага вінавацілі па 102 арт. ч. другая К. К. Старшыняваў на судзе судзьдзя Некраш, вінаваціў прокурор Коркуць. Бараніў адвакат Пятрусэвіч. Суд засудзіў Сабалеўскага на 6 год цяжкае турмы, залічаючы 2 гады і 1 месяц, каторыя Сабалеўскі ўжо праседзіў. Адвакат падаў апэляцыю.

### СУД НАД б. ПАСЛОМ С. РАК-МІХАЙЛОЎСКІМ

13-га чэрвіня на выезднай сэсыі ў Лідзе Віленскага Акружнога Суду разглядалася справа б. пасла Сымона Рака-Міхайлоўскага. Вінавацілі яго ў тым, што быццам сказаў „антыпанствовую" прамову на вечу ў Забрэзьзі Валожынскага пав. Сьведак з боку абвінавачаньня было шмат і блізу што ўсе паліцыанты: з боку абароны была адна сьведка — Міхал Станкевіч. Суд С. Рака-Міхайлоўскага апраўдаў. Абвінавачаны быў прывезены з турмы ў Польшчы, дзе адбывае 6 год цяжкой турмы.

### НЕЎРАДЖАЙ у ДЗІСЕНСКІМ і БРАСЛАЎСКІМ ПАВ.

Як ведама, летась з прычыны мокрага лета быў неўраджай, а потым і страшэнны голад у Дзісенскім і Браслаўскім павеце. Памога ад ураду прыйшла позна і было яе недаволі. Справе памогі шкодзіла яшчэ тое, што разьдзяленьням памогі згодна з урадовым зычэньням займаліся такжа польскія вучыцялі, каторыя блага адносяцца да беларускага насяленьня.

Нажаль сёлета ў вышменаваных паветах із прычыны сухменю ізноў неўраджай, а значыцца й голад. Кабжа цяпер была ляпей арганізавана помач.

### ЦІ УСТАВЫ АДНОСЯЦЦА ДА БЕЛАРУСОЎ?

Калі трэба плаціць падаткі або несьці іншыя яжары, дык, мы ведаем, што зь Беларусаў вымагаецца ня меней прадбачанага ў уставе. Але калі трэба зрабіць штось для Беларусоў, тады, відавнчна, адміністрацыя думае, што ўставы да Беларусаў не адносяцца. Вось адзін із тысяча прыкладаў. Бел. Гас. Зьвяз падаў 9. VIII. сёл. ў Маладзчанскае старасства заяву, каб лекар агледзіў памяшчэньне пад беларускую школу ў Вялікім Сяле. Прашло 2 мес. з палавінай і Зьвяз яшчэ ня мае адказу ад старасства.

### ШТО РОБЕ ШКОЛЬНЫ ІНСПЭКТАР У ВАЛОЖЫНЕ.

Валожынскі школьны інспэктар, Стaвовы, забараніў вучням купляць у Беларускай кнігарні ў Валожыне Інспэктар Ставовы ўжо неадноічы правіў сябе як непрыяцеля беларускага народу. Дык, ведаючы гэта беларускія дзеці павіны *толькі* купляць у Беларускай кнігарні (Рынак 4).

## 3-тыднёвыя курсы коопэратыўныя ў Вільні ад 13. X да 2 XI. 1929 г.

У часе ад 13 кастрычніка да 2 лістападу сёлета Спажывецкі Зьвяз Коопэратываў арганізуе ў Вільні трытыднёвыя коопэратыўныя курсы. Курсы маюць прыгатаваць кандыдатаў за арганізатараў і кіраўнікоў спажывецкіх коопэратываў Курсы будуць арганізаваны вельмі добра, выкладаць на курсах будуць найлепшыя сілы. На курсах будуць вучыць коопэратыўнай бугальтэрыі, тавараведы, рганізаваньня коопэратываў і крамаў, законаў аб коопэрацыі і іншага.

Дзеля вялікай патрэбы ў коопэратыўных працаўнікох можна быць пэўным, што кожны, хто скончa гэтыя курсы, дастане месца ў коопэратыве.

Дык трэба спадзявацца, што Беларусы ў вялікай лічбе паступяць на гэтыя курсы.

Слухачы на курсы прыймаюцца добра пісьменныя і тыя, што адбылі вайсковую службу. Вымагаецца такжа рэкомэндацыя ад грамадзкік арганізацыеў.

Плата за навуку 10 залат.

Слухачы рэкомэндаваныя Беларускім Гаспадарскім Зьвязам за навуку нічога ня будуць плаціць і дастануць яшчэ дарма начулішча. Пасьцель трэба браць сваю. Магчыма, што Беларускі Гаспадарскі Зьвяз будзе даваць яшчэ якую памогу рэкамэндаваным ім слухачом.

Заявы аб прыйме на курсы з напісаным собскаю рукою жыцьцяпісам і рэкомэндацыяй ад арганізацыі прыймаюцца да 10 кастрычніка.

Заявы з жыцьцяпісам можна прысылаць у Беларускі Гаспадарскі Зьвяз (Вільня, Астрабрамская N 15, 3), а Зьвяз, дадаўшы ад сябе рэкомэндацыю, перашле ў Спажывецкі Зьвяз Коопэратываў (Вільня завулак Роса, 3).

Заявы можна пісаць пабеларуску.

## Надгароды дастаныя на выстаўцы тканінаў Б. Г. Зьвязу

На выстаўцы тканінаў, арганізаванай Беларускім Гаспадарскім Зьвязам летась пры Паўночным Кірмашы ў Вільні, дасталі надгароды ніжэйпададзеныя жанчыны:

*Па* 15 *залатовак*: 1) Ганна Лобко, Марыя Рыбачыха, абедзьве з Дакудава, Лідзкага п. 2) Настася Шумская зь в. Яцукі, Наваградзкага пав., Вольга Вінцукевічанка, Софія Малька, Ганна Стаўпінская з Ахонава, Наваградзкага пав.—апошнім чатыром выслана па 13 зал. па пошце. 3) Аксеня Віхрова з Стаўрова Браслаўскага пав. 4) Аніся Галгоўская, Альжбета Норка, з Лыцавіч, Вялейскага пав., Галіна Мурашка зь Вішнева Вялейскага пав.—грошы апошнім чатыром па 13 зл. надгароды і пахвальныя Лісты пераданыя пераз Ю. Мурашку ў м. Вішневе. 5) Ганна Станкевічанка, Альжбета Каранеўская, Настася Станкевічыха, Ірэна Станкевічыха зь в. Гародзькаў, Валожынскага пав. Кацярына Пахамовіч Марыя Літвіцкая, Софія Пахамовіч (8 зал.) і Таццяна Шаўлюк зь в. Вялік. Запрудзьдзе Валожынскага пав. Ірэна Барада, Палагея Барада, Вольга Барада й Альжбета Багдан зь в. Гарадэчна, Валожынскага пав.—грошы апошнім пятнанцацём па 13 зал. і пахвальныя лісты перасланы праз Міхала Станкевіча зь Гародзькаў, 6) М. Наквасянка з м. Валожына. 7) Марыя Кавалеўская зь в. Янавічы, Нясьвіскага пав. 8) Вольга Цьвірчанка з м. Краснага—грошы 12 зл. 50 гр. высланы поштаю, а 50 гр. і пахвальны ліст мела атрымаць у Кнігарні Белар. Гасп. Зьвязу ў Маладэчне.

*10зал. надгароды* і пахвальны ліст дастала Надзея Мятла зь в. Кухцінцы, Дзісьненскага пав., 8 зал. і пахвальны ліст ёй пераданы праз Ігната Мятлу.

Надгароды прызнаны па 15 зал. і дзьвюм па 10 зал., але дзеля таго, што за рысаваньне дыплёмаў прышлося заплаціць па 2 зал. ад кожнага дыплёму, дык запраўды выплачана адным па 13 зал., другім (дзьвём) па 8 зал.

Усім, каму прызнаны надгароды, прызнаны й пахвальныя лісты. [1]

[1] Выставачная Камісыя, за нарысаваньне кожнага дыплёму брала па 5 зал. і толькі на просьбу Зьвязу нарысаваньне дыплему было даручана апошняму, катораму ўдалося заплаціць толькі па 2 зл. Дзеля тато што рысавальнік спачатку вымагаў заплаціць яму па 2 зл. 50 гр і толькі потым спусьціў на 2 зал. ад дыплёму дык 50 гр. былі дасланы пазьней.

# ЛІСТЫ

### З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ВАЛОЖЫНЕ

У Валожыне ё два прыходы і дзьве царквы. Царква Канстанціна-Еленская ля Віленскай вуліцы хоць і дзеравяная, але нішто. Відавочна бацюшка аб гэтай царкве руліцца. Сёлета направілі каля гэтае царквы мураваную агароджу. Шкада толькі, што бацюшка не дагледзіў царкоўнага гароду, каторы захапіў жыд Семярніцкі і не аддае.

Але зусім блага з царквой другой, сьв. Язэпа, што ля Зарэчнай вул. Вялікую мураваную царкву гэтага прыходу адабралі на касьцёл, хоць у Валожыне мясцовых каталікоў блізу што нямашака. Дык царкву для гэтага прыходу зрабілі з былой кузьні.

Не пашчасьціла гэтаму прыходу і з бацюшкам. Бацюшка гэгага прыходу, благачынны Васілеўскі ня толькі ня рупіўся аб сваім, але, навет, шкодзіў. Гэтак, калі воласьць на будоўлю новае царквы адпусьціла дзерава, а возьнікі дарма зьвезьлі яго на сваіх хурманках, дык ацец Васілеўскі дзерава тое прадаў і грошы ўзяў сабе. А пляц, на каторым хацелі ставіць царкву, ацец Васілеўскі аддаў жыдом у варэнду. Не пашанаваў ён, навет, таго месца, што на ім была старэнькая дзеравяная цэркаўка. Цяпер жыды на гэным пляцы садзяць гуркі, а ўзімку сьцідаюць гной. Бачаць парахвіяне на гэта і абураюцца: Шмат

яшчэ іншай шкоды рабіў благачынны Васілеўскі сваёй царкве. Няма дзіва, што ўсе парахвіяне паўсталі проці айца Васілеўскага і дамагаліся ў консысторыі ў Вільні ягонай зьмены. Просьле даўгога чаканьня, напасьледак консысторыя дзеля разгляду справы назначыла комісыю на чале з айцом Юзьвюком з Альшан. Дзіву парахвіян ня было канца, калі й просьле комісіі выглядала, што благач. Васілеўскі астанецца ў Валожыне. Аднак нядаўна даведаліся мы, што а. Васілеўскі пераводзіцца ў Смаргоні. Парахвіяне радасна ўздыхнулі. Але якая-ж карысьць будзе з а. Васілеўскага і ў Смаргонях.

*Валожынец.*

### ВАЛОЖЫНСКАЯ СЯБРАННАСЬЦЬ

У Валожыне ё пазычкавы коопэратыў (сябрына) зь неабмежанай адказнасьцяй сваіх сяброў. Коопэратыў гэты зусім без патрэбы названы „Касай Стэфчыка". Пан галіцыйскі Стэфчык нічагусенькі супольнага зь Беларусамі ня мае, затое ён свой асаднікам, што нахлынулі на нашую родную зямлю. А што датыча пазычкавых сябрынаў ці касаў зь неаграніченай адказнасьцяй, дык яны былі ўжо даўно да Стэфчыка.

Але, пакінуўшы на баку яе дзіўны назоў, мусім прызнаць, што валожынскі пазычковы коопэратыў разьвіваецца добра. Мае ён цяпер каля тысяча паёў. Дзеля справядлівасьці трэба адмеціць, што вялікая заслуга дзеля развою гэтага коопэратыву п. Глябовічынкі. Глябовічынка—Беларуска, хоць беларускае свае сьвядомасьці яна, здаецца, дагэтуль ня выказвала. Праўда, із сьвядомымі Беларусамі і зь сялянамі яна гамоне пабеларуску.

Але благая справа ў Валожыне з коопэратывам земляробска-гандлёвым „Rolnik". Закладзены ён спалячанымі панамі. Помач зь яго такая ў гаспадарскім жыцьцю мясьцовым, як з кашля ў хваробе. Зазначу, што калі ўвясну не ставала шмат каму хлеба, дык гэты коопэратыў прадаваў на вэксаль жыта па 9 зал. пуд, так што разам із процэнтамі і іншымі выдаткамі пуд жыта абходзіўся ня меней 12 зал. У той самы час у суседнім Вішневе (20 вёрстаў ад Валожына) пуд жыта на рынку прадавалі па 4 зал. 50 гр., а ў пав. Нясьвіскім і Сакольскім пуд жыта прадавалі па 2 зал. 50 гр. і навет па 2 зал. Пры гэткай сваёй некарыснасьці няма дзіва, што „Rolnik" мае мала сяброў, бо ўсяго каля 80, з каторых далёка ня ўсе заплацілі поўныя паі (па 50 зал.—„панскія" паі). Дык дзіва, што валожынскі соймік памагае „Rolniku", паручыўся за яго звыш як на сто тысячаў зал. і гэтым даў магчымасьць дзіўному коопэратыву жыць далей.

### *СПЭКТАКЛЬ у АЛЬШАНАХ.*

Дня 26 мая сёлета ў м. Альшанах Ашмянскага пав. адбылося тэатральнае прадстаўленьне, ладжанае Ашмянскім таварыствам Беларускага Гаспадарскага Зьвязу. Рэжысэраваў тэатрам Л. Стафановіч, а кіраваў хорам грамадзянін Ян Дыканец. Пастаўлена было: „Паўлінка" Я. Купалы і „Заручыны Паўлінкі" Францішка Аляхновіча. У прадстаўленьні бралі ўдзел: грамадзяне: Дыканец Ян, Сьцепаніна Дыканец, Вінцэнт Кандратовіч, Люба Фінкоўская, Юля Варсоцкая, Мікалай Зубовіч, Аляксандар Стафановіч, Валянтына Бразоўская, Вера Стафановіч, Сьцяпан Шчуцкі, Владзімер Фінкоўскі, Ян Варсоцкі і Ян Садоўскі

Артысты першы раз гулялі прадстаўленьне беларускае, але выпаўнілі ролі свае як найляпей.

*Я. К.*

### ЯК БЫВАЮЦЬ ВЫБАРЫ Ў ВАЛАСНЫЯ РАДЫ?

У Жалудзкай вол. Шчучынскага пав. былі па абводах выбары дэлегатаў на валасную зборку.

У дзікускім абводзе з усіх маючых права выбіраць 526 чал. зьявілася толькі 30 чалавек. З гэтае прычыны некаторыя грамадзяне падалі старасту заяву, дамагаючыся скасаваньня выбараў. Як чуваць, дык і па іншых мясцох мала зьбіраецца выбіральнікаў. Прычына гэтага дваякая: альбо арганізатары выбараў ня зычаць сабе, каб усе выбіральнікі прыймалі ўчасьце ў выбарах, альбо грамадзкая нядбаласьць самых выбіральнікаў.

Беларусы павінны старацца, каб усе маючыя права выбіраць, ішлі на выбары.

*Р.*

## З ПОЛЬШЧЫ

### АДНОСІНЫ ПАМІЖ УРАДАМ і СОЙМАМ.

Магло здавацца, што напятыя даўно адносіны паміж урадам і соймам паправяцца. Нядаўна ўрад зьвярнуўся да соймавых клюбаў з пропозыцыяй зрабіць супольную з урадам конфэрэнцыю аб буджэтных працах. Опозыцыйныя клюбы — спачатку клюб нацыянальны (ендэцыя) а пасьлей разам клюбы т. зв. лявіцы (П.П.С., Вызваленьне", „Стронніцтва хлопскае") і цэнтру („Пяст", хадэцыя і Нац. Работніцкат Партыя) адмовіліся ад гэтае конфэрэнцыі. Опозыцыйныя клюбы заявілі ўраду, што калі ён хоча гаманіць із соймам, дык трэба сойм склікаць; а калі сойму ня склікаць дык паводле ўставы можна весьці перагаворы толькі з прэзыдыюмам сойму.

Згадзіліся на конфэрэнцыю з урадам клюб ББ., ББС. і нямецкі.

Дык конфэрэнцыі ня будзе.

Клюбы цэнтру й лявіцы (т. зв. „цэнтралеў") маняцца падаць прэзыдэнту заяву аб скліканьню сойму 1-га кастрычніка. Калі-б такая заява ня была пададзена, дык сойм быў-бы скліканы 31 кастрычніка.

### ТЭРОРЫСТЫЧНЫЯ АКТЫ Ў ЛЬВОВЕ

8-га верасьня сёлета ў часе адкрыцьця ў Львове т. зв. Усходняга Кірмашу былі тамака ажно 4 тэрорырыстычныя акты. 1) Стаўпы, на каторых былі наклеяны вялікія плякаты аб кірмашы, хтось падрэзаў і яны паваліліся. 2) Стаўся выбух на схоўцы багажа на львоўскім вакзале, ад чаго такжа пагарэлі рэчы некаторых францускіх паслоў, госьцячых у Польшчы. 3) У дырэкцыі кірмашу выбух кош з дынамітам; ніхто ня ведаў, скуль гэны кош узяўся ў дырэкцыі. 4) ля дарогі, па якой праяжджалі міністры і іншыя высокія асобы на выстаўку, у руках Украінца Цярашчука выбух лёгкапальны матар'ял.

Польскія газэты пішуць, што менаваныя тэрорыстычныя акты былі работай сяброў Украінскай Вайсковай Арганізацыі. Украінцы быццам хацелі зьвярнуць увагу прыяжджаючых з заграніцы на кірмаш вялікіх гасьцёў на ўкраінскую справу ў Галіччыне.

## ШТО ДЗЕІЦЦА У СЬВЕЦЕ

**Конфэрэнцыя ў Гаазе** пачалася 5 жніўня, скончылася 30 жніўня. Конфэрэнцыя мела два галоўныя заданьні: 1) замяніць плян Доўсаў дзеля сплаты контрыбуцыі Нямеччынай плянам юнгавым і 2) устанавіць канчальны час, калі францускія й англіцкія войскі маюць быць вывядзены із занятай імі нямецкай зямлі—Узрэйня.

Перад Гаaскай конфэрэнцыяй у Парыжы працавала камісія экспэртаў зацікаўленых гаспадарстваў, каторая апрацавала плян юнгаў, зазначыўшы, што ён ёсьць цэласьцяй і дзеля таго ня могуць яго часьці быць зьменены. Але просьле гэтага ў Англіі замест консэрватыўнага настаў урад работніцкі каторы заявіў, што можа прыняць, плян юнгаў толькі зьменены на карысьць Англіі. Ішло аб павялічэньне часьці Англі ў пляне юнгавым із плачанай Немцамі контрыбуцыі. Прадстаўнікам Англіі на конфэрэнцыі быў міністар скарбу, Сноўдэн. Гэты работніцкі міністар, не дыплёмат, павёў справу ляпей, чымся ранейшыя міністры, зь вялікай дыплёматычнай спадчынкай. Ён проста разьлічыў, што ня няпрынятак юнгавага пляну балей пашкодзе Францыі, як Англі; дзеля таго ўпёрся і паставіў на сваім. Каля чатырох тыднеў прадстаўнікі іншых гаспадарстваў працівіліся дамаганьнем Англіі, але напасьледак, згадзіліся. Англія здабыла 75 проц. сваіх дамаганьнеў. Сноудэн у сваім комунікаце кажа, што „у Гаазе ўжыцьцёвіліся найлепшыя надзеі англіцкай дэлегацыі... Англія дамагалася 48 міл. у год—дастала 36 коштам Францыі, Італіі і Бэльгіі." Апрача таго Італія, што даставала ладную суму контрыбуцыі нямецкім вугальлям, згадзілися 1 міл. зь іх замяніць вугальлям англійскім. Гэта, паводля Сноўдэна, дасьць працу 40 тысячам англійскім вуглякопам.

Канчальна разьвязана на конфэрэнцыі справа акупацыі нямецкага Ўзрэйня. Ачышчэньне 2 паласы занятага прастору пачнецца 15-га верасьня без усялякай сувязі з юнгавым плянам. Бэльгійцы забавязаліся скончыць вывод войска з гэтае паласы да 1 лістападу, Французы--да Каляд. Англійцы займаюць толькі трэцяю паласу, каторую яны забавязаліся ачысьціць таксама да Каляд. 3-яя й апошняя паласа мае быць ачышчана французамі просьле зацьверджаньня юнгавага пляну, але не пазнай 30 чэрвіня 1930 г.

Гааская конфэрэнцыя прынясла й вялікую перамогу Нямеччыне. Яна 1) зьмяніла плян Доўсаў на лягчэйшы Юнгаў, 2) устанавіла бліжшы час ачышчэньня нямецкага Узрэйня, 3) канчальна разьбіла англійска-францускую антанту. У выніку ўсяго гэтага Нямеччына зраўнялася ў сьвеце із сваімі пераможцамі.

БІТВЫ ПАМІЖ АРАБАМІ Й ЖЫДАМІ Ў ПАЛЯСТЫНЕ ўзьняліся ў палове жніўня. Трывалі каля месяца. Бітвы пачалі Арабы, нездаволеныя тым, што жыды. каторых ў Палястыне цяпер 18 пр. а рэшта Арабы імкнуцца заняць пануючае палажэньне ў Палястыне. Палястынскіх Арабаў паддзержываюць моральна й грашыма ўсе іншыя Арабы, каторых каля 60 міл. У Палястыне соткі забітых і раненых жыдоў і Арабаў (болей жыдоў). Протэктарскі мандант над Палястынай мае Англія і можна сумлявацца, што ёй удасца давесьці да супакойнага сужыцьця жыдоў з Арабамі

ДЫМІСЬЯ УРАДУ ВАЛЬДАМАРАСА У ЛІТВЁ сталася неўспадзеўкі 19-га верасьня падаўся да дымісіі ўрад Вальдамараса. Просьле Вальдамара прэм'ер міністрам новага ўраду мае быць Тубеліс. Значыцца дыктатуры ўсюды валяцца

### ХІНСКА-МАСКОЎСКАЯ ВАЙНА Й ПЕРАВАРОТЫ.

У палове ліпня сёл. ўзьнік конфлікт паміж СССР і Хінаю з-за манджурскай зялезнай дарогі. Дарогу гэтаю правялі за пазычаныя ў Францыі грошы (за мін. Віттэ) маскалі і мелі зь яе вялікія карысьці. Але вось цяпер Хінцы занялі гэтую дарогу, прагнаўшы ўсіх бальшавіцкіх ураднікаў. Ужо паражка бальшавікоў ёсьць у тым, што гэткае, шкоднае ім здарэньне магло стацца. Што яно сталася—прычына гэтага ў аслабленьню СССР занятага хаданьням з соцыяльнымі ды із сваімі нацыяльнымі меншасьцямі, як прыкладам зь Беларусамі. Ужо 2 месяцы як паміж бальшавікамі й хінцамі ёсьць ваеныя стычкі, а адначасна быццам вядуцца перагаворы. Да запраўднай вайны дагэтуль не дапусьціла слабасьць абодвых праціўнікаў.

### Сьмерць латыскага паэты РАЙНІСА

Дня 12 IX—29 г. памёр на ўдар сэрца найвялікшы латвійскі паэта Райніс, што быў ведамы цывілізаванаму сьвету ня толькі сваёй поэтыцкай дзейнасьцяй, але так-жа як культурны і палітычны дзеяч. Памёрлы, як сябра і адзін із галоўных закладчыкаў лацьвійскай партыі соцыял-дэмократычнай, прыймаў дзейнае ўчасьце ў здабыцьці незалежнасьці Лацьвіі. Неабходна зазначыць, што памёрлы поэта быў шчырым прыхільнікам беларускага руху. Ён, між іншым, прыймаў дзейнае ўчасьце ў Беларускай Акадэмічнай Конфэрэнцыі ў Менску ў 1926 г., а такжа неаднойчы даведываўся да беларускіх культурных установаў ў Лацьвіі, дзе заўсёды зычыў белалускаму руху вялікай удачы. Цікава адцеміць, як сам Райніс зацеміў на конфэрэнцыі ў Менску ў 1926 г. Ён найпярвей пісаў пабеларуску і крыху пасьлей перайшоў на родную Яму латыскую мову.

Сьпі-ж супакойна у роднай зямлі, Вялікі й Дарагі Прыяцелю наш!

ЗБОРКА ЛІГІ НАРОДАЎ пачалася 30 жніўня ў Жэнэве. Былі агульныя словы, але конкрэтнага нічога важнага не пастаноўлена. Нам, Беларусам цікава й важна тое, што казалася ў Лізе аб нацыянальных меншасьцях, асабліва аб тэй іх вялізарнай часьці, што ёсьць паняволенымі народамі.

### Дэлегацыя Галоўн. Управы Т-ва Белар. Школы ў Вілен. вайводы

Польская газэта „Słowo" 15.VIII падала гэт'кую вестку: „Даведываемся, што ў вапошніх днёх п. віцэ-вайвода Кірцікліс прыняў дэлягацыю Т-ва Беларускае школы ў васобах п:п. Стацкевіча, Шырмы й Паўловіча. Дэлегацыя падчыркуючы сваю лёяльнасьць да Гаспадарства й Ураду, прасіла падтрыманьня пачынаньнеў Т-ва Белар. Школы, каторыя будуць мець вылучна характар культурна-асьветнае працы. П. віцэ-вайвода з націскам зазначыў выразную лінію і прыхільныя адносіны ўрадовых дзейнікаў да культурнае працы меншасьцей у гаспадарсьцьве, ставячы ў залежнасьць сваё падтрыманьне ад поўнай незалежнасьці і адлучэньня Т-ва Беларускае Школы ад рэвалюцыйных уплываў. Дэлегацыя абяцала прыдзержавацца вышсказанага". Гэтая вестка была перадрукована іншымі газэтамі і Гал. Ўправа ёй не запярэчыла. Значыць гэта праўда.

Хто-ж паслаў дэлегацыю, каторая зрабіла *такую* заяву? А вось Гал. Управа Т-ва Б. Школы, каторая (Ўправа) складаецца з гэткіх асобаў: 1) Стацкевіча Фэлікса, як старшыні, і сяброў: 2) Кепеля Мітрафана, 3) Марцінчыка Мікалая, 4) Пяткевіча Міхала, 5) пасла Дварчаніна Ігната, 6) пасла Валынца Флеганта, 7) Шырмы Рыгора, 8) Пяткуна Пётра, 9) пасла Гаўрыліка Язэпа, 10) пасла Крынчыка Паўлы і 12) Кізевіча Піліпа.

Як бачым, ладная частка вышменаваных людзёў—гэта інтэрнацыяналістыя й „звышрэволюцыянэры". Яны заўсёды вінавацілі іншых Беларусаў, што тыя зварочваюцца з рознымі патрэбамі да ўлады, а цяпер самі зьвярнуліся. І мы не вінавацім іх, што яны зьвярнуліся, бо на тое-ж яна ўлада, каб да яе зварачвацца з рознымі патрэбамі і дамаганьнямі, але сваёй дэлегацыяй „ашыя" інтэрнацыяналістыя паказалі, што ўсе іхнія абвінавачаньні іншых у гэтым — гэта толькі ня шчырая брахня.

Але дэлегацыя нашых інтэрнацыялістых зрабіла яшчэ тое, чаго іншыя Беларусы ніколі не рабілі — яна заявіла аб лёяльнасьці Гал. Управы да Ўраду, г. значыцца залічыла Гал. Управу да санацыі. Просьле гэтага трэба спадзявацца, што паслове

## Занятки ў Беларускай школе ў Панізьзі ўжо пачаліся.

Концэсыя на Беларускую прыватную школу ў в Панізьзе (прадмесьце Валожына) прадоўжана на час неаграничаны. За вучыцялёў зацьверджаны найлепшыя вучыцельскія сілы — Міхал Шакун і Міхал Азерскі. Ёсьць надзея, што будзе яшчэ зацьверджаны трэйці вучыцель.

Заняткі ў школе ўжо пачаліся. У школе будзе ня меней 5-ёх клясаў, а можа быць і сем клясаў. Усе грамадзяне з Валожына і суседніх вёсак павінны пасланць свае дзеці ў сваю родную беларускую школу. Але трэба спадзявацца, што і з дальшых вёсак і воласьцеў бацькі аддадуць свае дзеці ў школу ў Панізьзі.

---

Дварчанін, Валынец, Крынчык, Грэцкі й Гаўрылік пярэйдуць у Сойме да „Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з урадам."

Але мы ня чулі, каб просьле гэнае дэлегацыі палепшалі адносіны адміністрацыі да Т-ва Белар. Школы.

---

## Сярод Белар. студэнства

Хоць яшчэ ня кончыліся летнія вакацыі і не пачаліся заняткі ў унівэрсытэце, а з гэтым і праца беларускіх студэнтаў, то аднак сярод беларускага студэнства ў Вільні за гэты час можна згледзіць шмат чаго новага.

Гэтым новым будзе наўперад факт паўстаньня групы так званых студэнтаў „паступоўцаў" із вядомым Ю. Саковічам на чале, каторая у палове лета выдала нумарчык свайго воргану п. н. „Вольная Думка". Прычыны паўстаньня гэтае групы зусім звычайныя ў наш мамэнт, а пайменна— імкненьне інтэрнацыяналістых разьбіваць беларускі рух, паслугуючыся пры гэтым правакацыйнымі мэтодамі і подкупамі меней сьвядомых і малавыраблёных Беларусаў.

Тое-ж самае і із менаванай групай студэнтаў зь Беларускага Студэнскага Саюзу, каторая, як узьнікла не на асновах ідэолёгічных, у ходаньню із сваймі праціўнікамі ня толькі не глядзіць праўды, але нат далёка разьмінаецца з грамадзкай і людзкой этыкай.

У некулькіх „некім" напісаных (бо самі яны пісаць ня ўмеюць) артыкулах, „Вольнае Думкі" закідваецца ўсяму беларускаму студэнтству, якое не салідарызуецца зь менаванай групай, зрада, дэмаралізацыя, шляхоцкае й мяшчанскае паходжаньне і г. д. Сьмешна й дзіўна! Бо якраз група „паступоўцаў" толькі гэтым адзначаецца за ўвесь час быцьця (а ня „дзейнасьці", бо запраўды нічагусенькі яна ня дзеяла) ў Б.С.С. І многа яшчэ ўсякай брахні й няпраўды можна было-б прывесьці з асобных артыкулаў „Вольнае Думкі", але няма на гэта месца й патрэбы, бо й так кожнаму ведама, каго прадстаўляе сабой гэная група.

Прымаючы пад увагу ўсё вышсказанае, беларускае студэнства ў Вільні павінна якнайхутчэй адпаведна расправіцца з гэтай групкай інтэрнацыянальнага студэнства, што прыносіць сваімі немаральнымі інтрыгамі толькі ганьбу для цэласьці беларускага студэнства. Беларуская студэнская моладзь, як будучыя вярхі ў беларускім руху, павінна раз назаўсёды пакончыць з „юдавай" дзейнасьцяй некулькіх студэнтаў (не падводзім пад гэты назоў усіх студэнтаў дадзенай групы, бо некаторыя лучылі туды несьвядома), — гэтага вымагае народны абавязак беларускай студэнскай моладзі.

*Будучы студэнт.*

---

# НАВІНЫ

У дзесятыя ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча былі жалобныя імшы ў Вільні. У Сьвята-Трецкай царкве імшу меў а. Аляксандар Коўш, у касьцеле сьв. Мікала кс. Цікота.

V Беларускую Гімназію ў Вільні сёлета паступіла 70 новых вучняў. Склад вучыцялёў гімназыі крыху зьмяніўся. Выбылі Заморын, Шчасновіч і Абрамовіч. Прыняты новы вучыцель д-р. М. Ільяшэвіч. Гэтая зьмена выйдзе на карысьць гімназыі.

Беларуская вучыцельская Сэмінарыя. Беларускі Вучыцельскі Зьвяз падаў у Кураторую заяву, просячы концэсыі на адчыненьне прыватнай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі. Пакуль што адказу ад улады нямашака.

Беларускія Вучыцельскія Курсы. Той-жа Беларускі Вучыцельскі Зьвяз стараецца концэсыі на адчыненьне аднагодніх Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў. На курсы прыймаліся-б тыя, што скончылі Беларускія гімназіі або б. расейскія вучсэмінарыі.

Закладзіны Бурсы Беларускай Гімназіі у Наваградку. Сёлета 22-га верасьня ў 11 з паловай гадзінаў дня былі урачыстыя закладзіны і пасьвячэньне першага каменя пад будынак Бурсы Беларускай Гімназіі ў Наваградку. Пасьвяціць пачатак будынку Архіяпіскап Горадзенскі Аляксей.

Беларускі Турыстычны Клюб арганізуецца ў Вільні. Заданьням ягоным будзе пазнаньне роднага краю. Патрэба гэткай арганізацыі даўно ўжо ў нас вельмі пасьпела. Ініцыятарам арганізацыі ёсьць др. М. Ільляшэвіч, географ.

Сям'я й школа. Выйшаў другі нумар культурна-школьнага часопісу „Сям'я й школа".

Арэшты ў сэкрэтар'яце Беларуск. Сял.-Раб. Пасол. Клюбу ў Вільні. 26-га жніўня ў памяшчэньні Сял. Раб. Пасольскага Клюбу ў Вільні быў зьезд сэкратароў усіх сэкрэтарыятаў. Аб зьезьдзе адміністрацыі не наказалі. Быццам дзеля таго ў часе зборкі (прыйшла паліцыя і арыштавала ўсіх 16 чал.), апрача паслоў, каторых не чапала. З гэтага відаць, што хтось блізкі да т. зв. Сял. Раб. Клюбу наказуе аб усім паліцыі. Арыштаваныя ў верасьні звольнены з турмы.

V *замест* W *ў беларукай лацініцы*. Нягледзячы на тое, што, пачынаючы з 1926 г., у кніжках і часапісах выдаваных лацініцай людзьмі блізкімі да „Народу" заўсёды ўжываецца V, а не W, „Bielaruskaja Krynica" й дагэтуль ужывае W. Прычына гэтага тая, што V пачалі ўжываць людзі нялюбыя „B. Krynicy". Напасьледак, гэтую казьліную артачнасьць „B. Krynicy" пачалі ламаць людзі із шыршым кругазорам. Пайменна, у № 27 сёл. „B. Krynicy" інж. Адольф Клімовіч надрукаваў артыкул „Аб гаспадарцы", дзе піша вылучна V.

---

## ДЗІВОСЫ Й СЬМЯХОТЫ

### АБ ЧЫМ БЯДУЮЦЬ.

У 1926 г. ў Альт Стрэлітц у Нямеччыне нявінна быў засуджаны на сьмерць і пакараны сьмерцяй работнік-эмігрант Якубоўскі. Якубоўскі ёсьць Беларус із Міцкунскай вол. Віленскага пав., але дзеля таго, што ён (як кожны з нас цяперака) меў польскае грамадзянства, а мо' ашчэ быў Беларусам несьвядомым, дык Палякі зараз-жа яго ахрысьцілі Паляком.

Нямецкая Ліга правоў чалавека й грамадзяніна, сумляваючыся ў віне пакаранага, падняла стараньні дзеля аднаўленьня процэсу. На ўзноўленым процэсе Якубоўскі быў апраўданы. Апраўданьне гэтае, праўда, не ажывіла нябошчыка, але яно робе гонар нямецкаму суду, што ён можа мыліцца, але справядлівым астаецца. Апрача таго, дзякуючы апраўданьню, сям'я нябошчыкава дастане матар'яльнае забясьпечаньне ад нямецкага ўраду. Можна толькі цешыцца, што справядлівасьць перамагла. Тымчасам польская „Gazeta Warszawska" начай думае; ў N зь 1-га чырвіня гэта газэта піша, дасло̆ўна: „Нялюба нам прызнацца што справа нявінне пакаранага сьмерцяй Якубоўскага даводзе аднак, што нямецкія суды рупяцца, каб не запярэчыць ведамаму й старому прыслоўю: „Il y a des juges a Berlin". (Прускі кароль Фрыдрых II хацеў захапіць млынарову сялібу, але ўпорны млынар пастрашыў яго судом: „Ё яшчэ судзьдзі ў Бэрліне").

Але Польскім шавіністым справядлівасьць ня любая, ім ня люба кожная справядлівасьць і кожная праўда, калі толькі яна ня служа іх зьвярынаму шавінізму. А хто цяпер паміж Палякамі не эндэк-шавіністы? На пальцах нешавіністых можна палічыць.

*Асва.*

## ДАЛЁКІЯ ЛЁТАНЬНІ НА АЭРОПЛЯНАХ.

*Лётаньні польскія.* Польскія лётальнікі, маёры Ідзікоўскі й Кубаля двойчы прабавалі пераляцець із Эўропы ў Амэрыку. Першы лёт быў няўдачны аэроплян „Маршалак Пілсудзкі", на каторым яны ляцелі, зваліўся сярод акіяну ў ваду і ўтапіўся-б, але, на шчасьце лучыў нямецкі караб, каторы ўратаваў аэроплян і лётальнікаў.

Другі лёт гэтых лётальнікаў быў трагічны. У палове ліпня сёлета выляцелі польскія лётальнікі з Францыі ў Амэрыку. Ля Азорскіх астравоў пачаў псавацца мотар. Тады лётальнікі пастанавілі спусьціцца ля вострава Грацыёза. Пры спушчаньню аэроплян выбухнуў, маёр Ідзікоўскі быў забіты, а Кубаля ранены; аэроплян „Маршалак Пілсудскі" зьністожаны.

*Лётаньні нямецкія.* Нямецкі лётальнік др. Еккенэр зрабіў на аэропляне „Гр. Цэпелін" лёт наўкола сьвету. Ён ляцеў із Бэрліна пераз Польшчу, Беларусь, Маскоўшчыну й Сібір у Токіо, адтуль у Амэрыку, а з Амэрыкі ў Эўропу. У Токіо й Ньюёрку нямецкіх лётальнікаў вельмі горача віталі. Др. Эккенэр абляцеў на „Гр. Цэпеліне" наўкола сьвету за 21 дзень, у гэтым чыстага лёту было 11 дзён 23 гадз. і 11 часінаў (мінут), а 9 дзён з гакам пайшло на тры задзержкі ў дарозе.

Амэрыканскія фінансыстыя зрабілі з др. Эккэнэрам умову аб заўсёдных паветраных зносінах Амэрыкі з Эўропаю, пры гэтым галоўнаю станцыяй у Эўропе будзе Бэрлін.

## Ліст у Рэдакцыю

ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Перасылаю пры гэтым 5 дал. на месяц верасень на выдаваньне „Народу." Адначасне наказываю, што буду прысылаць што месяц гэтую суму на „Народ." Спадзяюся сярод сваіх знаёмых яшчэ знайсьці некатарых сяброў на гэта. Я пэўны, што нашая газэта павінна войстра хадацца зь непрыяцельмі нашага народу, як усходнімі, так і заходнімі. Адначасна падаю ад сябе прадстаўніка ў Рэдакцыю „Народу."

*Зыдар Пятрусэвіч*



Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Літэрамі У. Знамяроўскага, друк „ZORZA", Віленская 15. Рэдактар Б. Станкевіч.